 


# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 10 (1202) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 11 САКАВІКА 1979 г. ЦАНА 60 гр.


## Віншуем!

**Якраз у Дзень жанчын выступілі з першым канцэртам гарадчанкі. Было гэта 25 год таму назад. У калектыва багатая гісторыя (чытайце пра яе ва ўспамінах Ніны Мушынскай, якія ад Новага года друкуем), і перспектыўная будучыня. З нагоды юбілею жадаем заслужаным гарадоцкім спявачкам прымножання славы і гарачых апладысментаў на многія гады.**

**Брава, Гарадок!**

**На здымку: гарадчанкі выступаюць на беларускім фэстыне.**

**Фота В. Рудчыка.**



## Марыя Пятроўна

Пасля многіх год я зноў бачу і чую **Марыю Пятроўну Вжэцёнка**. У яе каляровым доміку на Дубічах у Бельску цішыня і ўтульнасць. На этажэрцы, тумбачцы, стале — усюды стосы кніг. Марыя Пятроўна ўсхвалявана тупае маленькімі крочкамі з кухні ў гасціную, папраўляе абрус, падае мне шклянку духмянага чаю, падсоўвае вазачку з пячэннем. І ўспамінае, успамінае... А ўспамінаць ёй ёсць што з пражытых 79 гадоў.

— У бацькі было нас пяцёра. Старэйшая сястра, хоць і надта здольная была, але яе не вучылі. Сярэдняя стала краўчыхай. А я, трэцяя, заўпарцілася быць настаўніцай. Яшчэ як у пачатковую школу хадзіла, то, бывала, збяру меншых дзяцей з палавіны Дубічаў, узлезем на нашу старую яблыню і там, на голлях, гуляем у школу. Ну, вядома, я заўсёды была настаўніцай. Марыла пайсці ў настаўніцкую семінарыю, што тады была ў Красным Стоку каля Дубровы Беластоцкай, але выбухла першая сусветная вайна і з маіх мараў нічога не выйшла. Аднак з вучобы я не зраклася. Як усе, так і мой бацька збіраў пакрысе пасаг для дочак: то загонец зямлі прыкупіць, то кавалачак поплаву, то цялятка на кароўку гадаваць пусціць. Я і стала прасіць яго: „Татка, мне пасагу не трэба, лепш пашлі мяне вучыцца“. Што ж, бацька прадаў карову, і за яе я пачала хадзіць у прыватную жаночую прагімназію Марціноўскай у Бельску. Ды ўсяго толькі год там правучылася. Наблізіўся фронт. Бацька наладаваў воз, прывязаў да яго карову, маці парэзала курэй, узялі мы гурточак авечак і пацягнуліся ў бежанства.

Бежанскія гаротныя бадзянні закінулі Вжэцёнкаў аж у Таганрог, на ўзбярэжжа Азоўскага мора. Там Марыя Пятроўна закончыла гімназію і паступіла ў Солецкую настаўніцкую семінарыю, што эвакуавалася ў Таганрог з Сольца ў Варшаве. Сям'я ў 1918 г. вярнулася ў Бельск, але без яе, бо ёй вельмі хацелася закончыць семінарыю. Потым, настаўнічаючы па сёлах у прыазоўскіх стэпах, перажыла яна ўсе жудасці, што пракаціліся тудою ў часе Грамадзянскай вайны. Сухі скрып віселіц пад цяжарам ахвяраў розных атаманскіх бандаў перараджаўся ў вогненнае бяспамяцтва тыфу, на які яна западала некалькі разоў. У Бельск вярнулася ў 1921 г. Адразу спрабавала паступіць на работу, але „бальшавіцкага“ настаўніцкага дыплома тадышнія асветныя ўлады не прызналі і працы не далі. Толькі пасля доўгіх і паніжаючых захадаў удалося ёй паступіць на падрыхтоўваючыя да настаўніцкай працы курсы ў Гродне. Потым яна атрымала пасаду настаўніцы ў аднакласнай школцы ў вёсцы Сарочыцы, што знаходзіцца паміж Скідэлем і Луннай на Гродзеншчыне.

— Дабралася я неяк туды, а школка тая — уросшая ў зямлю вясковая халупка, у вокнах — ні шыбінкі, у сярэдзіне — няма на чым сесці. Але ж солтыс пастараўся недзе чатыры лаўкі ад сцяны і да сцяны, пашклілі вокны. У баковачцы, завешанай ад класа радзюжкай, была мая „кватэра“. Як школьная старожка выбярэцца ў Скідэль і прынясе хлеба і яшчэ чагоколечы, то ем, а як не пойдзе — сяджу, бывала, па цэлых днях галодная. Навокал прасціраліся багны, зімою ваўкі падыходзілі пад самую вёску і жудасна вылі. І ўсё ж я палюбіла гэты куточак, тамашніх людзей, сваіх вучняў. Вельмі ж працавітыя і старанлівыя яны былі, з чулым адкрытым сэрцам, цягнуліся да лепшага, святлейшага. Памятаю, арганізавала я першую, надта скромненькую ўрачыстасць заканчэння школьнага года: вершыкі, песенькі, танцы. Бацькі глядзелі і плакалі.



Працавала Марыя Пятроўна ў Сарочыцах сем год. Вырвалі адтуль яе сямейныя няшчасці. На сухоты памёр 23-гадовы брат, потым адна сястра, другая. Упрасілася, каб быць бліжэй Бельска. Вучыла ў Крынках на Сакольшчыне, у Чыжах на Гайнаўшчыне, у Следзянове і Коцах каля Сямяціч. Выйшла замуж, але ў хуткім часе ў цеплыню жыцця маладой сямейкі дыхнула смерць — у яе самой адкрыліся сухоты. Ратавала сябе для дзіцяці, мужа, бацькі. Але злая доля не адступалася: ужо ў часе акупацыі памірае бацька і годам пазней — муж. Асталася адна, хворая, з дваіма малымі дзяцьмі без якой-небудзь дапамогі і сродкаў да жыцця. І толькі дзякуючы сіле свайго духа, настойлівасці і загартаванасці здолела перажыць усе нягоды і зноў, ужо пасля вызвалення, вярнуцца да настаўнічання. Спачатку вучыць у бельскай пачатковай школе № 1, затым яе як выдатнага методыка пераводзяць на работу ў пачатковую школу пры Бельскім педагагічным ліцэі, дзе вучні гэтага ж ліцэя пад наглядам вопытных педагогаў ставілі свае першыя крокі ў навучанні, у тым ліку і беларускай мовы.

(Працяг на стар. 4)

## З рэпарцёрскіх запісак

## Пакруціць за хвост...

Завандраваў я аднойчы на скупачны пункт Гайнаўскага ГСу. Ля будынка, у якім памяшчалася вага, таўпіліся сяляне са сваёй жывёлай. Нейкі гаспадар, праклінаючы ўсё на свеце, выпіхаў задам з вагі сваю кароўку. Дапамагала яму жонка.

— А што, дадому павядзеце? — пацікавіўся кіраўнік сельскагаспадарчай службы Гайнаўскай гміны, які тут спадарожнічаў мне.

— Калі будуць так класіфікаваць, — знерваваўся селянін, — то я ўвогуле павяду прадаваць сваю жывёлу на іншы спэнд. 528 кг вагі — і толькі звычайная **„адзінка“!** Хто гэта бачыў?

— Тут „экстру“ трэба! — закрычала яго жонка.

— Хай бы „першую А“... — згадзіўся селянін.

— Сёння многа жывёлы, — сярод агульнага шуму прамовіў нейкі іншы гаспадар, — і таму заніжаюць класы, каб менш прыняць. Я адразу ведаў, што сёння „спэнд“ будзе няўдачны.

* ✲ *

**Спэнд.** Слова ўжо моцна закаранілася ў слоўніку нашых сялян. Яны рыхтуюцца да яго не менш старанна, як калісьці рыхтаваліся да ўрачыстага гадавога кірмашу. Спэнд — гэта ж апошні этап сялянскіх намаганняў, ацэнка іх працы і турбот. Нічога тады дзіўнага, што ў час спэнду проста стыхійна праяўляюцца эмоцыі і супярэчныя меркаванні.

* ✲ *

Прабіраюся ў камеру, дзе вага і кантора класіфікатара. У клетцы на вазе ялоўка Катушэўскага з вёскі Махнатае. Гаспадар, відаць, вопытны. Кажа, што дома асталося яшчэ 8 кароў. Не адзін раз даводзілася прадаваць яму сваю жывёлу ў класе **„экстра“**. Цяпер аднак на баку яго кароўкі чырвонай фарбай красуецца **„адзінка“**.

— Пане класіфікатар, — звяртаецца гаспадар да чалавека з канторы, — па колькі купляеце маю ялоўку?

— Па 35 злотых за кілаграм, — адказвае прадстаўнік ГС-аўскага гандлю.

— І больш нічога не дабавіце?

— Тут не кірмаш, а дзяржаўная установа! — рашуча заяўляе класіфікатар. — І таргавацца мы тут не будзем. Гэтая штука закласіфікавана да першага класа...

(Працяг на стар. 4)

 

